

Васіль Зуёнак нарадзіўся 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна Мінскай вобласці. Рос, вучыўся. Пасля Барысаўскага педвучылішча скончыў яшчэ філфак БДУ імя У. І. Леніна. Як пасталеў, вядома, пачалося працоўнае жыццё. Спачатку Васіль Зуёнак працаваў у рэспубліканскіх газетах. Потым быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць». Цяпер ён — галоўны рэдактар часопіса «Бярозка».

Яшчэ ў пару юнацтва і вучобы, як і кожнага маладога паэта, Васіля Зуёнка запалоніла лірычная паэзія. Ён паэт-лірык і ўжо выдаў зборнікі паэзіі «Крэсіва» (1966), «Крутаяр» (1969). Адначасова, будучы па натуры педагогам, ён сяды-тады робіць кніжныя падарункі дзецям: «Вясёлы калаўрот» (1965), «Жылі-былі пад вадой» (1969), «Любіць прыроду — любіць Радзіму» (1962), «Працай славіцца чалавек» (1963).

Калі Васіля Зуёнка прывабілі сатыра і гумар, ён і сам дакладна не можа ўспомніць. Прынёс у часопіс «Вожык» гумарыстычны верш і адразу яго надрукавалі. А як надрукавалі адзін, то за ім і другі. І вось сабралася цэлая кніжка.

Гумар яго прасякнуты цёплай лірычнай усмешкай, народным жартам. І, безумоўна, ад дасціпнага пяра паэта добра дастаецца розным хвалько, балбатунам, п'яніцам, з якімі чытач пазнаёміцца ў зборніку «Качан на п'едэстале».





## КАЧАН НА П'ЕДЭСТАЛЕ

— Цуда бачылі ці не?! —
Дзівяцца ўсе чыста.
«Два пуды»! —
На качане
Надпіс залацісты.

Выступае важна Стась:
Той качан —
Каб знালі —
Ён расціў.
І можа стаць
З ім на п'едэстале!

Аж на пяць вакольных сёл
Хлопец пахваляўся,
Ды на выстаўку казёл
Вечарам забраўся —

Да капусты акурат...
Хоць было і ўлішку —
З'еў рэкордны экспанат,
Нават з качарыжкай!

Звеннявы і брыгадзір
К Стасю прыімчалі:
— Ты ж на выстаўку, глядзі,
Зноў прынось качанне...

«Зноў прынось!»
А возьмеш дзе?
Пуста ў Стася
На градзе...



Ён рэкорда цэлы год
Мужна дабіваўся:
Хоць быллём зарос гарод,
А качан удаўся!

Ды такая вось бяда
Стрэла рэкардыста —
Памаўзлівы барадач
Славу згрыз начыста!



# ТРАГІКАМЕДЫЯ

**Для тых, хто не ведае,**
**як судзілі Мар'яна чатыры Іваны**



Прыйшла пісулька ў райспажыўсаюз:
«Ну, гэта ўжо, як ёсць, — адзін канфуз:
Ды прыбярыце ж вы да рук Мар'яна,
Няхай штодня не швэндаецца п'яны».

І вось ідзе на прафсаюзны сход
Падняты па трывозе ўвесь народ...

— Таварыш, так сказаць, наш у бядзе, —
Сам старшыня Іван пад нос гудзе, —
Падсобім жа Мар'яну мы, як брату,
Змагацца з зеллем д'ябальскім,
праклятым!..

А потым хлопца браў у абцугі
Бывалы чалавек — Іван другі:
— Заўжды цябе, Мар'ян,
падводзіць крэда:
«Дай выпіць — абыдуся без абеда».
Скажу табе, мой браце, я адкрыта:
Без закусі — грамулькі не бяры ты.
Калі як след, ад пуза пад'ясі,
Наступны гляк тады ўжо, брат, прасі...

Івану трэцяму —
трымаць прамовы груз
(Ну, распячэ ён райспажыўсаюз!):







— Хоць мне Мар'ян, як ёсць,
ні сват, ні брат
(Мар'ян унурыўся, схаваў пагляд),
А ўсё ж шкада... бо хлопец — малады,
Співаліся і мы ў яго гады.
А зараз лье каторы, нібы ў лейку,
З застолля выйдзе — п'яны на капейку.
Дык вывад зробім, думаю, такі:
Хай вучацца ў старэйшых блазнюкі!

А старшыня ўсё зіркае ў паперу,
Пытаецца:
— Якія ёсць намеры?
— Івана падтрымаць —
ды стаўце кропку! —
Іван чацвёрты выгукнуў таропка.

Пасля ж, калі Івана падтрымалі,
Да магазіна дружна шыбавалі...

Назаўтра зноў вялікі сход збіраўся:
Іван (які — не знаю) налізаўся.

Я думаю, ці варта тут казаць:
Пара б тых «суддзяў» за каўнер узяць.







## ГАРБУЗ



З шалупіннем каля тыну
Гарбузінку хтосьці кінуў.
А вясной
Усім на дзіва
Тое зернятка ўрадзіла!

Цесна стала на градзе.
— Хай на тын гарбуз ідзе, —
Так рашыла грамада.
І гарбуз сказаў:
— Гайда!

За тыніну зачапіўся —
І палез, палез увысі.
З кожным днём гарбуз таўсцее
Ды на сонейку жаўцее.
А як вырас, растаўсцеў —
Ні з кім знацца не схацеў.
— Гэй вы, — кажа, — драбяза,
Паважайце гарбуза!
Я — нікога не баюся,
Сонцу ў сваякі гаджуся!

Пасля слоў гэтых тынінка
Затрымцела, як былінка:
Хрась! — і бразнуўся гарбуз.
Быў хвалько —
Застаўся друз.



## ВЕЧАРАМ НА ПРЫЗБЕ

Дзень
кнігу
ціха
дагартаў...
«Раман» закончыўся няярка:
Адна — збіраецца ў свінаркі,
Другі — начальствам сёння стаў.

Якім начальствам! — драбяза:
Загадчык пункта племяннога...
— Ты, Клаўдзія, як той казаў,
Каб так сказаць, дык і нічога...
Але,
абмеркаваўшы ўсё...
— Як хораша пяюць вяснянку!..
— Эт, хтось вішчыць, як парасё,
Сказаць, някормленае зранку...
Дык вось, абмеркаваўшы так,
Ну, словам, гэткім самым чынам...
— А зорак, глянь! Нібы мастак...





— Ды не трашчы ты без
прычыны!..
Інтэлігенцыі у нас —
Каб незамужняй — малавата:
Дакторка трапіла — і раз! —
Як кажуць, аграном сасватаў.
Я ж пры рабоце пры сваёй...
— Ах, дурачок ты мой чубаты!..
— Што, што?! Не надта о-ё-ёй,
І розум мой, таго: не кратай!
— Вунь знічка коціцца!
Хутчэй
Жаданне лепшае загадвай!..
— Ды, гэта во... яно яшчэ,
Сказаць, запраўлю ўсёй
брыгадай!..

...Дзень
кнігу
ціха
дагартаў...
«Раман» закончыўся няярка:
Адна — збіраецца ў свінаркі,
Другі — начальствам сёння стаў...










## НІБЫ ЗА СТОЛ БЯСЕДНЫ

Нібы за стол бясседны —
дзверы на́пята
Ў бярозавае ўзлессе за ракой:
Без стуку — цецярук,
сарока — на́пытам,
Гракі-манахі — чорнай талакой.
Ідзе парадкам
культвяснакампанія:
Пазапаліла лотаць ліхтары,
Сон-снегавік званкі
паладзіў ранція,
Дразды — свісткі
з лазовае кары,
Мак затаўкае змена камарыная,
На леснічоўцы
певень задурыў:
Махнуў крылом на слепату
курыную —
Тры ночы не начуе ў двары,
Шчупак на нерасце бузуе
сінь бясхмарную,
І лектары лясныя —
салаўі
Дачытваюць брашуркі
папулярныя
Аб дружбе, аб каханні, аб сям'і.



## СТУДЭНЦКІ ЧАМАДАН

Можа хто і пасмяецца з верша:
Вось хлапец знайшоў здзівіць
чым свет!
Толькі ж гэтак я кажу не першы:
— Чамадан мне — як курцу кісет.
Паглядзі — чаго няма ў ім толькі:
Тут Купалы кніжка і Бальзак,
Тут буфет студэнцкі мой,
пакольк
Без яго не пражывеш ніяк.
Праўда, як стыпендыя знікае,
І буфет тады пусцее ўміг,
Бо ніхто у нас не замыкае
Чамаданы ад сяброў сваіх.
А калі машынай спадарожнай
Я дамоў імчу на пару дзён, —
Хіба ж мне без чамадана можна?
Дазарэзу тут патрэбен ён.
Па дарозе дрогкай газік скача —
Чамадан мой крэслам можа быць...
Тут і пашанцуе мне, няйначай,
Для дзяўчыны месца уступіць.
А дамоў прыедзь —
маленькі брацік
Завіхацца ля яго пачне,
Самы заклапочаны у хаце,
Каб знайсці у ім што пасмачней...
Так заўжды, дарогаю б якою
Ты, студэнцкі лёс, мяне ні вёў —
Гэты чамадан вазьму з сабою,
Як багацце першае сваё.
Не бяда, што крыху абшарпаны,
Але ж служыць ён не толькі мне.
І на бляск пузатых чамаданаў
Я яго не прамяняю,
не!..



## ЧУБІЦЬ, ХТО ЛЮБІЦЬ

Помніш: у гады дзяцінства смехам
Бацька мой цябе нявесткай зваў.
І было ж сябрам з таго пацехі!
Ну, а я — дзявацца дзе, не знаў,
Бо праходу хлопцы не давалі,
Клікалі заўжды мяне «жаніх!»
І са смехам «горка» ўслед
крычалі...
Мне ж было, відаць, гарчэй
за ўсіх...
Каля хаты вашай я паспешна
Бегаў, бы ў далонях жар насіў,
Каб убачыць мог любы насмешнік,
Што з табой не знаюся зусім.
Штурхануў не раз цябе, бывала —
І стараўся там, дзе больш сяброў.
Ты ад крыўды слёзы выцірала,
Ды не бегла скардзіцца дамоў...
Ці не гэтак сама хтось «галубіў»
Смехатуньку, што цвіла-расла
З прыгаворам:
«Чубіць той, хто любіць»?..
...Чубіў, чубіў ды
сватоў прыслаў!







## РЫБАК І РЫБАЧКА



— На Начы?
— На Начы.
— З паўпуда?
— Няйпачай!..

...Сяджу
і рыбачу...
То клюне,
То плюне
Ды ўглыб
Нырне
І плёткі
між рыб
Пляце пра мяне...

Над Начай,
над Начай
Гайдаецца кладка.

3 Зак. 122





— Дзень добры!
— Дзень добры...
— Не ловіцца?
— Гладка...

А слова
да слова —
Гатова
размова...
Гуляе улоў мой,
Цікуе і судзіць...
І клёву сягоння
Няма
І не будзе.

Вісяць над вадою,
Сумуюць вудоўі...





## СТАРЫ ЦЕЦЯРУК

Нотным кавалерам
Ходзіць па чысціку,
Ля малодкі шэрай
Сцелецца лісцікам:

— О, з цяцер цяцера,
Перад боем
Прысягаю пер'ем:
Станеш маёю!
Быў і буду богам я
На такавішчы.
За цябе —
любога
Спляжу,
знішчу.
А яна,
шэрая,—
З цяцер цяцера:
«Квох» ды «квох»,—
не веру я.
«Квох» — не веру...

— «Квох» ды «квох» —
смяялася —
Нарабіла сораму...
Сэрца ўзбушавалася
Пад крылом чорным!
І сышлася сіла —
Грозныя суперпікі.





Захвасталі крылы,
Як у лазні венікі.
За адзін золак
Перамог
такі ўсе,
Урачыста-голы
Перад ёй з'явіўся...
Ні штаноў, ні фрака...
Дзе краса былая?..
— Хто ты,
небарака?
Знаць цябе не знаю!
— Гэта ж я!..
З бойкі!..—
Цецярук клянецца.
А яна
як войкне,
Як засмяецца,
А яна,
шэрая,—
З цяцер цяцера:
— «Квох» ды «квох»,—
не веру я.
«Квох» — не веру...







## ЛЕТНІЯ ЯМБЫ

1.

Нарэшце, горад расхлісну́ў каўнер,—
Здаецца, бег бы ў рэчку, як спрасонак!..
Пенсіянер перасяліўся ў сквер,
Персоны ходзяць з ценем парасонным.
Сплываюць потам мінскія «маржы»,
І шыльду—перажытак зімняй моды:
«Здароўе загартуй і беражы» —
«Маржыны» клуб змяніў на «Піва —
воды».

Самлелыя, стаяць мастоў быкі,
І горад азіраецца навокал:
Асфальт, асфальт — плыве ва ўсе бакі,
Ні Белавежы тут, ні Налібокаў...
Ссівела Баравое ад дымоў,
Над Вячай не відно дубоў вячыстых...
І ўсё ж туды з ячэістых дамоў
Ірвуцца аднадзёншчыкі-турысты.

**2.**

І хто там Крым расхвальвае яшчэ?!
Пад Мінскам сонца больш,
чым на курортах:
За дзень так нашчадруе, напячэ —
Дамоў прыедзеш падгарэлым чортам!..
Вальней разнасцеж дзверы, электрычка!
На ўлонне цягне песіміст харчы,
У аптыміста — без размаху звычка:
Ён з вудай — дык і з юшкаю, лічы...
Ускочыш у вагон, як у агонь,
Куды б, глядзіш, нагу так-сяк
паставіць.
Разлазіцца па швах электраконь...
На дол злязаеш — убакі хістае.





Падскокамі імчышся, каб паспець,
Каб адхапіць ля рэчкі лепшы кавал.
А на плячах — рукзак, нібы мядзведзь, —
І што ён зараз думае, цікава?..

**3.**

Паўгорада прывабіў пругкім звонам
Маленькі мяч з пукатымі грудзьмі.
Вясновы плён: сланечнік стадыёна,
Як семкамі, запоўнены людзьмі.
Вясёлая раскручваецца драма:
«Відовішчаў і хлеба!» Ёсць усё...
На ваш алтар, «Тарпеда» і «Дынама»,
Запал свой і эмоцыі нясём.
Абводкай хітрай ашаломлен шэльма,
Чынуша — абаронаю глухой.
А на табло мігаюць скваппа бельмы:
Гульня без пераможцаў — па сухой.



Сезон нулямі зноў адкрыла лета...
Ідуць з азартам згаслым у вачах
Балельшчыкі — пакутнікі, паэты —
Пустога ўсё ж, па сутнасці, мяча...

4.

Мне ў леце люба сталасці пара:
Камбайнаў спелы і паважны рокат,
Ільноў купанне ў сонечных вірах,
А на таках — мяхі па-брацку ўпокат.
Трывожыць думы халадок начны
І дзень, калі па-жнівеньску сагрэты
І сенажаць, і ціхі плёс рачны,
І сціpты — залатыя вехі лета...
Ажыны дух блукае па ярах,
Баравікі праз мох ірвуцца ў поце.
І мухаморы ў ельніку гараць,
Дакладней, аж згараюць на рабоце...
Я заблуджуся ў жнівеньскіх лясах,
Махну зялёным крыллем ля аблокаў, —
І павуцінка ў чорных валасах,
І да адлёту жураваў далёка.









## ЧЫРВОНЫЯ БОТЫ

Кулічок з кулачок,
А нагамі ўдаўся:
Каб не вузкі армячок —
З буслам бы зраўняўся.

Рост не ў рост, як ля спіны
Цісне — аж да колікі.
А штаны — хіба штаны:
Да калена толькі...

Кулічыху смокча злосць:
— Вунь у качкі — качар,
У бусліхі бусел ёсць,
Толькі мне няўдача:

Трэба ж век пражыць
з такім —
Ні красы, ні сілы, —
Ходзіць, плача ля ракі,
Заламаўшы крылы.

Уздыхнуў кулічок:
— Ат, жыццё — не гара, —
Кінуў вобзем армячок
І пайшоў да бору.

Пад ядлоўцавым кустом,
Каб ніхто не высачыў,



Жыў кравец
Іголак Сто,
А, мабыць, і Тысяча.

Вожык выкрай разаслаў,
Надпусціў улішку.
Фрак пашыў, як у бусла,
З белаю манішкай.

— Апранайся, кулік,
Топай на балота!
А кулік зноў панік:
Не хапае ботаў.

— Пачакай, надыдзе час, —
Вожык разважае, —
Як буслы ляцяць ад нас —
Боты пакідаюць,

Бо лягчэй, як ні кажы,
Басаnож ляцець ім...
Хопіць ботаў — не тужы! —
І табе, і дзецям.

Купіны пабраў на ўлік,
Дзе маглі быць сховы:
Выглядае ўсё кулік
Боты
бусловы.

Жонка ў вырай уцякла,
Грэецца на сонейку,
Вожык лапаю буслам
Памахаў з сасонніку...



Кулічок, кулічок,
Аблінялы, рыжанькі,
Па куп'і скок ды скок,
Сабірае дрыжыкі.

І, нарэшце, —
прычакаў:
У снягах балота...
Падвялі кулічка
Чырвоныя боты.

## ДВА ЖАРТЫ ПРА БЯССОННІЦУ

### ...На трэцім дзесятку

Кашаль не таўчэ,
і не ныюць косці.
А сон — от жа чорт! —
ні ў вока не лезе...
Усхапіўся:
быццам попікам хтосьці —
Пад бок,
як некалі на начлезе.
От жа чорт...
Пад падушку зірнуў, пад ложак...
Жонка?..
Не-е, — спіць, як святая...
Пачакай, пачакай,
ці не **Ён** патрывожыў? —
Час падходны якраз:
світае.
Так і ёсць!
От жа чорт: на маладзіку
Вунь —
смеючыся гайдаецца —
Вясновы настрой мой.
Крычу блазнюку:
— Злазь!
— Пачакай да раніцы!..





### ...На чацвёртым дзесятку

Мне сягоння не спіцца,
І ўчора не спалася...
Можа сквапнасць
лісіцай
Лезе: «Мала ўсё», «Мала ўсё»?
Мо, як пень, закахаўся
Па лысіну самую,
Што прыпудрыць стараўся,
Каб не ззяла рэкламаю?
Ці сябры адцураліся —
Не заманіш і чаем?
Ці ў сям'і амараліцу
Сусед прыкмячае?
Ці няма ў працы ладу —
Прытаміўся, нябога?
Дык, здаецца ж, парадак
І нічога такога...

...Як і ўчора не спалася —
Зноў не спіцца сягоння...
Недзе сорак падкралася —
І з парога не згоніш...







### НАСТРОЙ

Сакавік, сакавік
Цягне дзевак за язык...

Ходзіш і зайздросціш
дваццацігадовым,
Слухаеш няўцямна іх вясёлы шчэбет.
Позірк сэрцабойны — цяжар шматпудовы,
Кеплівае слоўца — нібы горкі чэмер.
Ва ўспамінах вокліч круціцца назолай:
«Эх, як позна-позна і як рана-рана»...
І ў каго ж бы гэта папытаць дазволу,
Каб на дзень хоць збегчы
ад гадоў-тыранаў?

Сакавік, сакавік,
Памажы мне, чараўнік!

Толькі ж ці паслухаў
ласкатун дзявочы!..
Па лядку вясновым адзвінеў падковай,
Нават не спыніўся, ні на крок
не збочыў,
Праляцеў, не глянуў —
дзень сакавіковы.
Даганяй, як хочаш...
А вярнуць — не ўдасца.
З тым, што прамінула,
не чакай сустрэчы.

Некаму другому — па вясновай ласцы —
Цені летуценняў ахінаюць вечар.

Сакавік, сакавік
Не бярэ мяне на ўлік.

Што ж, яго не стану
я трымаць за хлясцік —
Пралятай, імчыся, хмельнае насенне!
Хіба я не ведаў, што такое шчасце?
Мне вясна прысніцца на асеннім сене!..
Хіба ў гэтым свеце не чакае хтосьці?..
Са шпаком гамонім змоўным
перасвістам:
Ці ў вясны бываў я не жаданым госцем
І ці толькі радасць — тая,
з першым лістам?

Сакавік, сакавік —
Сум, як снег вясновы, знік.





## ХОЧАЦЕ ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ НЕ

### З народнага

Хочаце верце,
Хочаце не:
Лесам ісці
Давялося мне.

Чую: нібыта
Пішчыць вяпрук, —
Мусіць, напалі ваўкі!
Выламаў я
Бярозавы сук,
Кінуўся да ракі.

Хочаце верце,
Хочаце не:
Сваімі вачмі
Гляджу я —
Бераг увесь
Ад крыві счырванеў:
Воўк
Камара
Свяжуе.

Як перайсці,
Ўратаваць бедака? —
Надта ж глыбокая
Наша рака.



Хочаце верце,
Хочаце не:
Ёсць галава
На плячах у мяне.
На галаве, —
Нібы лес, валасы...
Зграбшы ў руку
Чупрыну,
Сам сябе я
Крутануў тры разы,
Цераз раку
Перакінуў!

Хочаце верце,
Хочаце не:
Бераг —
Дрыгва дрыгвою —
З разгону,







Са смакам
Мяне як глыне
Проста ўсяго,
З галавою!

Хацеў адкапацца —
Рыдлёўкі няма.
Да вёскі я хуценька
Пашыбаваў.
І хочаце верце,
Хочаце не:
Покуль прыбег,
Адкапаўся, —
Згінуў камар,
Перастаў звінець,
А воўк —
У хмызняк падаўся.

Адны камарыныя
Косці ляжаць...
Няма як з-за іх
Касіць сенажаць.

Злуюцца касцы:
— Ах ты гэткі, сякі!..
Давай я ўсе косці
Цягаць да ракі.

Запруда ўзнялася
З касцей камарыных,
Рака разлілася,
Як вокам акінуць...
Я, праўда, не быў там,
Расказвалі мне...

Дык хочаце верце,
А хочаце не.



## ЕХАЎ ДЗЕД ДАДОМУ...

Пэўна, вас не ўражу:
Дзе мой — проста дзед.
Пры вусах паважных
І пры барадзе.
Да навукі прыткі,
З тэхнікай дружыў.
Толькі перажытку
Ў транспарце не зжыў, —
Ні табе аўтобус,
Ні табе цягнік:
Дзед сваёй асобай
На кані прывык.
Трэба на вяселле? —
Дружкі ды радня
На машыну селі...
Дзед запрог каня.
Гэтак і дадому
Пакацілі ўсе.
Ну, а дзед, вядома,
У развалкі сеў.
Лейцы напружыніў,
Глядзь — бяжыць дружбак:
У палку служылі
Разам як-ніяк!
— Ды заехаў вось бы
На хвілінак пяць...
Дзед уважыў просьбу:
Трэба начаваць...



Потым клікнуў цёзка,
Потым кум ды сват...
Ехаў дзед праз вёску
Тыдзень акурат.
Тут і паразовы
Падаспелі ўслед.
— Эх, гуляй, кірзовы! —
Тупнуў ботам дзед.
Бабцы, нібы з раю,
Тэлеграфаваў:
«Выехаць няма як:
Пугу нехта ўкраў».

Толькі бабка знала,
Дзе яе шукаць:
З пугай выбягала
Дзеда сустракаць.






## МІНІ-МІНЫ

### ...На куросанні

Да дзесяці ўвесь птушнік
спаў учора.
І не таму, што певень недарэка,
А проста ён без нот і дырыжора
Цяпер не хоча нават кукарэкнуць...
Бо сам індык запэўніў,
Што талент ёсць у пеўня.





**...На паэтычнай сустрэчы**

І змог жа, чорт, паставіць
так паставу!
Здаецца —
Пушкіну
ён, сама меней, брат.
Ва ўсім аж ззяюць генія праявы.
Вось толькі верш...
крыху псуе парад.







**...Пасля прэміяльных**

Боль — абручамі
На галаве.
Перад вачамі
Сялёдка плыве,
Келіх, як цынік,
Ззяе лускй.
Пад лыжачкай — ціна
Смагі марской.
Сэрца, бы корак,
Ірвецца з грудзей,
Вялая змора
Ўспаміны вядзе...
Рубель пакамечаны...
І драбяза...
Цяжка. І нечага
Жонцы сказаць.








### ...На вяселлі

Цэлы дзень гуло вяселле,
Шмат пілі, не меней елі.
Малады не адставаў,
Сваё шчасце абмываў.
Так намыліўся,
намыўся —
Жонку ўзяць дамоў забыўся.







## ЗМЕСТ



**Рэдактар І. ГРАМОВІЧ**

**Тэхрэдактар Г. Афанасьева** **Карэктар І. Голубева**
**Мастацкае афармленне і макет С. Волкава**

Здадзена ў вытворчасць 19/II-73 г. Падпісана да друку 10/IV-73 г.
Фармат 70×108$^{1}/_{32}$. Фіз. друк. арк. 1,5. Ум. друк. арк. 2,1. Ул.-выд. арк. 2,75. АТ 07622. Тыраж 22 984 экз. Зак. 122. Цана 10 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.